Цана нумэру 50 кап.

# БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА

ШТОДЗЕННАЯ ГАЗЭТА.

Рэдакцыя і Адміністрацыя — Востра-Брамская, № 9 — адчынена што дня, апрача сьвята, 10—3 гадз.



Год I. Вільня, субота, 28 чэрвеня 1919 г. № 31.

*Вільня, 27 чэрвеня 1919 года.*

Немцы падпісалі мір. Ня будзем варажыць, якога веку дажыве ён, і будзем пэўны у адным: з двух пазыцый, цераз якія выпала прахадзіць чалавецтву да сусьветнага парадку, адна здалася. Асталася другая пазыцыя— бальшавізм. На яго наваляцца цяпер з падвоенай энэргіяй. I шмат пытаньняў паміжнароднага характару у скорым часе будзе разьвязана. У тым ліку і пытаньне беларускае. Дарма намагаліся расейскія і польскія шовіністы нізьвесьці яго да стану унутранай расейскай ці польскай справы. Дарма казалі аб нас заграніцаю усякую, карысную ім няпраўду. Прыйшоў час, што пачынаюць прыслухоўвацца у вялікім сьвеце і да беларускага голасу. I хоць зычнасьці яго перашкаджае нашая-ж цямната і несьвядомасьць, з якой карыстаюць ворагі, аднак лепшым сынем бацькаўшчыны пасьля вялікіх трудоў удаецца паддзержаць гонар Беларусі. Цяпер мы пэўны, што голас наш Антанта пачуе і даведаецца аб справах беларускіх ня толькі ад польскіх паноў на Беларусі, якія ужо парупіліся выслаць сваю дэлегацыю у Парыж, але і ад паўнамоцных прадстаўнікоў усей беларускай грамады. Будзем-жа пэўны, што Антанта ня зробіць нас маскальскімі, ці паляцкімі, ці якіх іншых паноў батракамі і, не вымагаючы нашага запраданьня за сачавічную поліўку (як ужо пасьпелі зрабіць нашы некаторыя сучасныя «прыяцелі»), а толькі ва імя агульна-чалавецкіх ідэалаў і ва імя крыві і сьлёз, вылітых Беларускім Народам на аўтар вызваленьня сьвету, паможа нам выбрацца на торную дарогу адраджонага жыцьця.

Будзем верыць, што гэтак, а ня йначай будзе разьвязана беларускае пытаньне.

Будзем верыць і р а б і ц ь.

Будзем усьведамляцца і гуртавацца без маруды і з усіх сілаў.

I мы зваюем свае злыдні.



# АПОШНІЯ НАВІНЫ.

## Весткі Польскага Генеральнага Штабу.

*Варшава, 24 чэрвеня.*

### Фронт Галіцыйска - Валынскі.

Украінскія атакі пад Янчынам і Ваўковым на паўдзён ад Пшамысьлян адбіты 8 пяхотным палком з вялікімі стратамі для ворага; пры гэтым мы узялі каля 100 палонных. Вялікія бойкі у раёні між Бурштынам і Рагатынам істнуюць.

На Валыні каля Чартарыйску-Рафалаўкі вылазкі разьведчыкаў.

**Фронт Палескі.** Спакойна.

**Фронт Літоўска-Беларускі.** Каля Пастаў вялікая дзеяльнасьць артылеры, на другіх вучастках Фронту спакойна.

### Пачатак вайны з Немцамі?

ПАЗНАНЬ, 25 чэрвеня. Камунікацыя глаўнага даводзтва ад 24 чэрвеня. **Паўночны фронт.** На куяўскім вучастку і далей сільная дзеяльнасьць нямецкай артылеры. Уночы непрыяцель ударыў на Цагельню і Бжузкі і пакуль што забраў гэты раіон. Контратакаю яго адтуль выкінулі. Пад Патэркам мы зьнялі патруль з афіцэрам на чале. На другіх вучастках спакойна. **Заходні фронт.** Апрача звычайных стычак, спакой. **Паўднёвы фронт.** Каля Кенпінска узмоцненая дзеяльнасць разведчыкаў з абодвых бакоў. Між Падзамчам і Верушовым непрыяцель хацеў перайсьці цераз Просну, але яму у гэтым перашкодзілі, увечары нямецкая артылерыя абстрэлівала Верушоў і падняла ў гэтым мястэчку пажар. На другіх вучастках фронту спакойна.

### Немцы і флот.

НАУЭН, 24 чэрвеня. Рэакцыйная нямецкая прэса з радасьцю вітаець вестку аб патапленьні нямецкага флоту, адзначаючы, што вельмі прыемна, што у мамэнт найвялікшага прыніжэньня Нямеччыны нямецкі дух выявіўся ў такой справе. Нямецкі флот з славаю пашоў на дно, але ня дастаўся ворагам.

Усяго затоплены 22 судны, з іх 9 баявых судоў і 13 крэйсяроў. (ПАТ)

### Роспуск Нямецкага Нацыянальнага Сабраньня.

БЕРЛІН, 24 чэрвеня. Чакаецца роспуск Нацыанальнага Сабраньня. Новыя выбары не адбудуцца, пакуль цяперашні кабінэт ня выйдзе ў адстаўку. (ПАТ).

### Назначэньне Брокдорф-Рантцау.

КОПЭНГАГЕН, 24 чэрвеня. Брокдорф-Рантцау назначаецца нямецкім паслом у Данію. (ПАТ).

### Пазыцыя нямецкіх генералаў.

БЕРЛІН, 24 чэрвеня. Нямецкія газеты пішуць, што камандуючыя дабравольчаскімі арміямі афіцэры у Ваймару: Грэнер, Маркер, ф. Літвіц, Ольдэрсгаўзен і адмірал Тротта мелі нараду, падпісаць мір ці не. Большасьць выказалась за падпісаньне умовы. Гіндэнбург выказаўся процiў падпісаньня міру. (ПАТ).

### Адстаука Носке.

БЕРЛІН, 24 чэрвеня. Пішуць, што чакаецца адстаўка Носке, якая выклікаецца пагрозай афіцэраў стралковага корпусу пакінуць часьці, калі мір будзе падпісаны без агаворак. (ПАТ).

### Маніфэстацыя у Парыжу.

ПРАГА, 24 чэрвеня. Чэскае бюро прэсы паведамляе з Бэрліну: «Vossische Zeitung» піша, што учора у 9 гадзін увечары з францускіх фартоў адбылися салюты з прыгоды заключэньня міру. На вуліцах Парыжу вялікія маніфэстацыі ў чэсьць ураду. Прад вэрсальскім замкам адбыўся вялікі мітынг, былі прамовы. На бульварах граюць аркестры. Жыхары радаюцца (П. А. Т.).

### Уражаньне хаўрусьнікаў ад патапленьня нямецкага флоту.

ЛІОН, 24 чэрвеня. Вестка аб патапленьні ўласнымі экіпажамі нямецкага ваеннага флоту, зрабіла цяжкое ўражэньне на ўсіх сяброў мірнай канфэрэнцыі. Яны пачыналі верыць у маральнае адраджэньне нямецкага народу, але гэты выпадак паказывае, што немцам ня можна верыць.

### Падзел Турцыі.

ЖЭНЕВА, 24 чэрвеня. У Парыжу адбудзецца сустрэча прадстаўнікоў мірнай канфэрэнцыі з дэлегатамі дзяржаў, паўстаўшыў ад раскіданьня Турцыі. Прадстаўніцтва будзе ад Арменіі, Сірыі і Палясьціны. Ад Палясьціны будуць сіаніцкія арганізацыі. Дэлегатамі жыдоў напэўна будуць Сакалоў і Вэйцман. (Б. В. Д.).

### Мэмель для Літвы.

ПАРЫЖ, 18 чэрвеня. «Temps» падае адказ Антанты немцам. У 10 аддзелі адказу кажацца аб Мэмелі: Кааліцыйныя і злучаныя дзяржавы ня лічуць, каб адарваньне Мэмелю ад Нямеччыны магло парушыць інтарэсы жыхароў. Край гэты заўсёды быў літоўскім. Большасьць жыхароў, дзеля іх пахаджэньня з роду і мовы, ёсьць літоўская. Довад, што большасьць жыхароў места Мэмелю ёсьць нямецкая, ня мае сур'ёзных падстаў, тым больш, што гэта ядыны выхад да мора для Літвы. Немцы павінны Мэмель і ўвесь край перадаць дзяржавам кааліцыі тады, калі будзе выяснены лёс літоўскай дзяржавы.

### Сьвяткаваньне Люблінскай Уніі.

Арганізаваны у Пінску камітэт Люблінскай Уніі надрукаваў у польскай і беларускай мовах адозву да жыхароў, якая кліча да урачыстага сьвяткаваньня 1 ліпня 350 угодкаў Люблінскай Уніі.

### Пасьпех арміі Денікіна.

СТАКГОЛЬМ, 24 чэрвеня. Водле вестак, атрыманых з Гэльсінгфорсу, вайскі ген. Денікіна ідуць напярад—на паўноч каля Царыцына і на паўднёвы захад у гэтым жа кірунку. Данскі басэйн знаходзіцца цяпер у руках проціўбальшавіцкіх войск. Чырвонаармейцы уцякаюць без парадку. Пры адступленьні яны ўзрываюць масты, псуюць зялезную дарогу і вывозяць ўсе матэрыялы. (П. А. Т.)

### Петлюра у Румыніі.

ВЕНА. Кар. «Св. Сл.» піша, што глава Украінскай Рэспублікі Петлюра, жывець інкогніто ў адной з вёсак Букавіны. У размове з адным афіцэрам свайго штабу Петлюра на разьвітаньне сказаў, што праз некаторы час украінцы зразумеюць, што расейскі бальшавізм нічым не рожніца ад расейскага царызму і з бальшавікамі трэба таксама ваяваць, як і з былымі царскімі жандармамі. І ось, калі на яго бацькаўшчыне народ гэта зразумее, то ён зноў пачне працаваць на яго карысьць.

# У ВІЛЬНІ.

### „Рэзалюцыя“.

«Виленскій Курьеръ» замясьціў цікавую «рэзалюцыю», якую вынесла вядомая «Ліга хрысьціянскіх работнікаў» у Вільні на пытаньне аб бягучым мамэнце «Віл. Кур.» піша: «Па запрашаньню «Лігі хрысьціянскіх работнікаў Сьв. Казіміра» з Варшавы прыбылі у Вільню дэпутаты варшаўскага Сойму кс. Ксежынькі і п. Гдык. У іх присутнасьці 22-га чэрвеня адбыўся мітынг польскіх работнікаў, на каторым былі прыняты рэзалюцыі: 1) вымагаць ад ураду, каб без усякай маруды распачаць падгатоўчыя работы у Вільні на выбары у варшаўскі законадаўчы сэйм, каб гэтым зрабіць канец усё яшчэ неабмяркованаму палажэньню у Віленскай зямлі; 2) зьвярнуцца да польской ваеннай улады з просьбай распачаць адпаведныя крокі дзеля ратаваньня польскага і каталіцкага насяленьня, якое ёсьць у Менску і паветах: Вялейскім і Дзісьненскім; 3) зьвярнуць увагу мясцовых ўлад на ненармальны стан справы стравованьня, бо ня гледзячы на пасыланую нам помач нашымі братамі з Пазнані, мы ня можам у поўнай меры карыстаць з гэтае помачы з прычыны непарадкаў і слабога транспарту, што асабліва мае месца ў Лідзе, гдзе здараецца навет крадзеж тавараў; 4) з болем у сэрцы даведаліся мы а скандальных напасьцях сацыялістаў-дэпутатаў варшаўскага сэйму на каталіцкі касьцёл; выказываем сваё глыбокае абурэньне з прычыны падобных учынкаў, бо каталіцкая рэлігія бараніла нас ад усякіх грабежскіх нападаў да бальшавікоў уключна».

«Виленскій Курьеръ», замясьціўшы рэзалюцыю дадае: «Мы не падаём «спэцыяльных» выразаў гэтае рэзалюцыі з прыгоды іх немагчыма-войстрага характара. Мы, апроч таго устрымліваемся ад камэнтарыяў на конт некаторых пажаданьняў гэтай рэзалюцыі. Мы скажам толькі, што цана рэзалюцый, якія выносяцца на мітынгах—якога-б рода мітынгі ні былі,—даўно вядома, асабліва цана рэзалюцый тых мітынгаў, каторыя згукаюцца з вучасьцем сталічных гастралёраў. Мы ня можам яшчэ ня выказаць свайго зьдзіўленьня перад універсальнасьцю рэзалюцыі: яна датыкаецца блізка што усіх бакоў упраўленьня. На якім праве мітынг, ды яшчэ мітынг адной толькі часткі работнікаў, так вольна «распараджаецца» усім краёвым жыцьцём?»

Мы далучаемся да пагляду «Віл. Кур.».

### Цікавая гісторыя.

У апошнім часе ў «Виленскомъ Курьерѣ» зьявіліся абвесткі аб стварэньні беларускага хора. Цікава, што гэтыя паны-арганізатары набіраюць сваіх пявуноў цераз расейскія газэты.

### Амэрыканскія місыі.

Цяпер у Вільні знайходзяцца дзьве амэрыканскія місыі. На чале адней з іх стаіць капітан Робэрт Нэйтон Кунц, прадстаўнік хрысьціянскай амэрыканскай ратунковай адміністрацыі (American Relief Administration); на чале другой стаіць паручнік Леон Гэрштэнзапг, прадстаўнік жыдоўскага злучнага камітэту раздачы помачы.

### Усё танее.

У зьвязку з падпісаньнем мірнай умовы ўсё пачало танець. Мануфактура патанела без мала на 100 працэнтаў.

**Загад віленскага вокругу,** які быў дагэтуль на сьв. Юрскай № 36, цяпер перанесьлі (апрача загаду дзяржаўнай маемасьцяй) на сьв. Юрскую вул. № 13.

## Пісьмо у рэдакцыю.

У № 23 «Беларускай Думкі» надрукована, што ўладару дому № 28 на Полоцкай вуліцы было адмоўлена ў прыняцьці заявачнай дамовай кніжкі, дзеля таго, што некаторыя з кватэрантаў гэтага дому запісаліся беларусамі.

Гэтым пісьмом паведамляю і вельмі прашу паважаную Рэдакцыю надрукаваць у чарговым нумэры газэты, што выжэй памянуты закід не згаджаецца з праўдай, а ёсьць лгарства.

Прашу таксама іншыя газэты, каторыя перадрукавалі гэтую заметку, надрукаваць гэта пісьмо.

Кіраўнік заявачнага бюро
VI вокр. м. Вільні *В. Пожэрскі.*

Увага Рэдакцыі. Аўтар заметкі не адкідаецца ад яе, дадаючы, аднак, што усё гэта пададзена да друку са слоў кіраўніцы дому п. Р. Шульскай, каторая і дагэтуль не замальдавала кватэрантаў на тэй-жа, відаць, прычыне.



Рэдактар і выдавец У. Знамяроўскі. Друкарня «Віленскага Выдавецтва», Мала-Стэфанаўская, 23.